БРАСЛАЎШЧЫНА, ГЛЫБОЧЧЫНА, МЁРШЧЫНА, ПАСТАЎШЧЫНА, ШАРКОЎШЧЫНА

KRESY EUROPY

# КРЭСЫ

- Не плач! Мы вернемся вясной
І ў поле выйдзем грамадой,
Сустрэнем новы ўсход зары...
Максім Танк

Газета NGO`s Заходняй Віцебшчыны № 1-2 (17), студзень 2003 год.

# *Наша права на галечу*

Сярэднестатыстычны беларус - чалавек спакойны, талерантны, ветлівы, спагадлівы і ... бедны. Беднасць яго становіцца літаральна прымаўкай для еўрапейцаў, якія больш-менш дасведчаныя аб абставінах нашага жыцця. Вось толькі самі беларусы чамусьці не ўсведамляюць гэтага факта. Наш менталітэт не дазваляе нам паглядзець на сябе збоку. А паглядзець ёсць на што.

Вазьміце любы раён, любы калгас. Колькі атрымліваюць сёння заробку людзі, якія з'яўляюцца яго членамі? Лічаныя тысячы.

І маўчаць! Няўжо нікому не прыйдзе ў галаву падзяліць такі «заробак» на колькасць дзён у месяцы - не атрымліваецца на самы звычайны, і самі неабходны бохан хлеба. Няўжо тым тысячам і тысячам беларусаў, якія едуць на працу ў суседнюю Расію, парабкаваць, прыніжаць сваю чалавечую годнасць перад расійскімі хамаватымі і злодзеяватымі наймальнікамі, ні разу не прыйдзе ў галаву самае звычайнае пытанне: а чаму мы не можам гэтым жа самым займацца дома? Дома ж, на беларускай зямлі беларус пачывае сябе ў арганізацыі, як цяпер кажуць, любой формы ўласнасці таксама парабкам, які толькі не цалуе гаспадара шторанак у плечуко - усё астатняе ён робіць безадмоўна.

Маўчаць пенсіянеры і шчыра ідуць пад час выбараў галасаваць за той рэжым, які дае ім капейчыну, але рэгулярна. Маўчаць міліцыянеры, якім з-за высокай адносна зарплаты хочацца аднаго - утрымаць свае пасады. Маўчаць вайскоўцы, якія сёння атрымліваюць нашмат менш тых жа міліцыянераў, але ўсё-такі маюць пэўны і сталы заробак.Маўчаць прадпрымальнікі, якіх з усіх бакоў «даціскаюць» чыноўнікі ўстаноў самага рознага кшталту і аднаго нахабства.

І гэтым маўчаннем мы самі сабе зарабляем права на галечу. Мы, найперш мы, вінаватыя ў тым, што дзесяцімільённы народ пасярод Еўропы апынуўся на мяжы бездані.

На маёй памяці было толькі некалькі няўдалых спроб забастовак, выступленняў эканамічнай накіраванасці. Яны затухалі, нібыта кволыя агеньчыкі ў моцны дождж. Некалі геніяльны эксперыментатар і сакрушальнік існуючага тады рэжыму Ульянаў узяў за лозунг сваёй арганізацыі « З іскрынкі ўзгарыцца полымя». Ён даказаў, што такое можа быць. Відаць, і нам пачынаць трэба з іскрынак.

***Рэдактар.***



ВЫБАРЫ

# Зробім прагноз

Кампанія па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў уступіла ў новую стадыю. Завершана вылучэнне кандыдатаў у абласны, раённыя, сельскія і пасялковыя Саветы. Цяпер справа за рэгістрацыяй гэтых кандыдатаў. Размова , канечне ж, ідзе аб рэгістрацыі тых кандыдатаў, якія вылучаліся ад партый, шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў. Але толькі не па ініцыятыве мясцовых улад ці якіх-небудзь мясцовых калектываў. Мясцовая вертыкаль у ходзе гэтага этапу передвыбарчай кампаніі паводзіла сябе па-рознаму: ад яўнага непрыняцця да больш-менш прыстойных адносін да таго, што нехта хоча стаць кандыдатам у дэпутаты без "разнарадкі". Увогуле, мы яшчэ не пераадолелі – па крайняй меры ў асяроддзі чынавенцтва – стэрэатыпу: а чаго гэта ён лезе. На адной з нарад раённага ўзроўню нават прагучала з вуснаў мясцовага кіраўніка: " Розныя там дэмакраты і журналісты лезуць у дэпутаты..." Дарэчы, імкненне стаць дэпутатам па Канстытуцыі можа выказаць кожны грамадзянін нашай краіны, ёсць абмежаванні толькі па ўзросту.

Але галоўнае будзе вырашацца ў працэсе рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты. Тут ёсць шмат падводных камянёў. І толькі пасля іх праходжання стане поўнасцю зразумелым, як улады аднесліся да незалежных кандыдатаў.

Тут, на мой погляд, ёсць два шляхі. Першы – ставіць усялякія магчымыя перашкоды, зрабіць так, каб з магчымых, зусім нешматлікіх прэтэндэнтаў у рэальныя кандыдаты трапіла яшчэ менш так званых дэмакратаў. Шлях, які выбіраўся на працягу многіх апошніх выбараў.

Але перад уладнымі структурамі паўстае яшчэ адзін шлях. А што калі даць магчымасць апазіцыі вылучыць сваіх кандыдатаў? Няхай сабе балатуюцца, няхай нават дзе- нідзе і перамагаюць, уваходзяць у склад мясцовых Саветаў.

Па-першае, іх не так і шмат, таму рэальных фракцый і рэальнай апазіцыі яны стварыць ніяк не змогуць.

Па-другое, створыцца абстаноўка, пра якую можна будзе гаварыць: выбары былі дэмакратычнымі і свабоднымі. А гэта для іміджу нашай дзяржавы ў свеце, ой, як патрэбна, не той пакуль што імідж.

Па-трэцяе, можна паглядзець і далей. Стан спраў у эканоміцы сёння такі, што бліжэйшых паляпшэнняў не чакаецца. Не чакаецца лепшага і ў аддаленай перспектыве – больш таго, прадчуваецца далейшае падзенне ў бездань.

І вось тут цэнтру, які любіць пераносіць віну за свае




паражэнні, як кажуць, на месцы, будзе што сказаць дэмакратам: а вы ж таксама вінаватыя ў складанай сітуацыі, вашы прадстаўнікі былі ў шэрагах дэпутатаў, прымалі рашэнні, памыляліся. Таму дзяліце адказнасць.

Гэта толькі прыватныя меркаванні. Але тое, што прадстаўнікі апазіцыі, калі акажуцца яны сярод дэпутатаў, будуць у меншасці і ў вельмі складанай сітуацыі, адназначна. Але ісці на гэта, відаць, было трэба. І падзякуем, падтрымаем тых, хто меў адвагу ўступіць у барацьбу за дэпутацкія мандаты.

Нехта можа задаць пытанне: добра, што дэмакратычныя сілы вылучаюць сваіх кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў. Але калі на нашым участку толькі адзін кандыдат? За каго галасаваць? А вы паглядзіце на асобу кандыдата, даведайцеся пра яго з усіх крыніц – ваш выбар. Адыёзнасць кандыдатур ад улады бачыцца адразу. Прайшлі часы, калі "зверху" спускалі неабходны працэнт прысутнасці ў Саветах рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі. Сёння на гэта ў "вертыкалі" забыліся. І калі выбаршчык уважліва прачытае сёння спісы кандыдатаў у дэпутаты, а, значыць, патэнцыяльных дэпутатаў, ён убачыць, што большасць там складаюць альбо чыноўнікі альбо працадаўцы. Ім гэта патрэбна. А нам ці патрэбна?

***Алесь Касцень***

# КУЛЬТУРА І ТРЭЦІ СЭКТАР

## Перасоўная выстава

Выставы, адна цікавей другой, практычна штомесяц праходзяць у Глыбокім адразу ў трох выставачных залах – гарадскога цэнтра культуры, Дома рамёстваў і раённага гісторыка-этнаграфічнага музея. Работнікі апошняга пайшлі далей і наладзілі цікавую перасоўную экспазіцыю "Набыўкі музея – 2002". Запаснікі музея за мінулы год дзякуючы ўдалым пошукавым экспедыцыям, археалагічным раскопкам і падарункам землякоў папоўніліся амаль тысячай новых экспанатаў, адлюстроўваючых быт мінулага стагоддзя. У канцы другой вучэбнай чвэрці незвычайныя музычныя інструменты, бытавыя рэчы яшчэ царскай Расіі, архіўныя фота і многае іншае ўбачылі вучні і настаўнікі першай і трэцяй гарадскіх школ. Па заканчэнню зімовых канікулаў перасоўная выстава працягне сваю працу і з эскпазіцыяй, дазваляючай лепш ведаць свой край, пазнаёмяцца ў СШ № 2 і ў прафліцэі.

*У перадnavагоднім нумары бюлетэня Асамблеі дэмакратычных неўрадавых арганізацый вучні 9 "Е" класа СШ №3 г. Глыбокае прачыталі інфармацыю аб правядзенні акцыі "Зробім лепш" і з задавальненнем вырашылі правесці навагоднія ранішнікі для вучняў 1-х класаў. Падарункі рыхтавалі ўсім класам: прыносілі, што маглі (кніжкі, сшыткі, цацкі, цукеркі, яблыкі...)*

Наладзілі для дзяцей гульні, конкурсы, паклікалі Дзеда Мароза са Снягуркай і казачнымі героямі. Завяршылі свята, пачаставаўшыся пірагом, што спякла Таня Стоцік, з гарбатай, цукеркамі.

Трэба было бачыць, з якім задавальненнем дзевяцікласнікі рыхтаваліся да акцыі і як яе праводзілі. Для іх гэта было сапраўднае свята: зрабіць лепш тым, хто жыве побач. Хацелася б пералічыць самых актыўных удзельнікаў акцыі: Стоцік Таня, Радзько Надзя, Папко Дзіна, Атвалка Таццяна, Протас Іна, Плескачэўская Марына, Пачопка Алена, Сівіцкая Ірына.

Радавала тое, што дзеці не ачарствелі душой, не паддаліся настрою, што, здаецца проста "вісіць" у паветры – усё дрэнна. Калі дрэнна, то трэба рабіць лепш.

Акцыя дае магчымасць адчуць, што палепшыць жыццё – у сілах кожнага, хто хоча гэтага, і радасць можна адчуць не толькі, калі нешта атрымліваем. І калі нясеш дабро іншым, адчуць сябе неляжачым камнем, а жывым ручаём.

Урэшце, прымяненне сваім сілам можна знайсці, дзе хочаш.



* 4 снежня раённая газета "Браслаўская звязда" ўпершыню выйшла ў новым афармленні. Побач з назвай выдання пачэснае месца заняў герб Браслава "Вока Божага Наканавання", нададзены гораду ў чэрвені 1792 г. Нядаўна герб атрымаў статус афіцыйнага сімвала Браслава і Браслаўскага раёна.

* Браслаўскі цэнтр дзіцячай творчасці выдаў зборнік літаратурных работ, прысвечаных роднаму краю, – "Вітаю цябе, Браслаўшчына". У зборнік увайшлі лепшыя творы: вершы, сачыненні, лірычныя замалёўкі, казкі, прычвечаныя прыгажосці Браслаўскай зямлі.

* Удзельнікі 'краязнаўчага клуба "Зямляне" Грытунскай базавай школы пад кіраўніцтвам настаўніцы А.Б.Каржанеўскай выявілі непадалёку ад вёскі Латочкі камень-волат. Даўжыня ледавіковага валуна складае 6,8 метра. Такім чынам, ён з'яўляецца самым вялікім на Браслаўшчыне і адным з самых вялікіх у Беларусі. Школьнікі запісалі некалькі цікавых легенд, звязаных з камянём, які мясцовыя жыхары называлі "заклятым". Паводле некаторых прыкмет валун у даўнія часы мог быць месцам прынясення ахвяр. Валун-волат будзе занесены ў спіс геалагічных помнікаў прыроды рэспубліканскага значэння.

* Да Калядных святаў Браслаўскі гістарычна-краязнаўчы музей падрыхтаваў выставу "Святое Раство – людзям прыгаство". На ёй прадстаўлены каталіцкія і праваслаўныя абрады, сюжэты якіх звязаны з Божым нараджэннем, выявамі Маці Божай з немаўляткам Хрыстом. Выстава аздоблена каляровымі паштоўкамі пачатку XX стагоддзя, маркамі, ёлачнымі цацкамі, працамі народных майстроў. Музей традыцыйнай культуры пачаў працу над афармленнем выставы "Калядныя ўзоры", якая праводзіцца штогод. Яе ўрачыстае адкрыццё пройдзе напярэдадні каталіцкіх Каляд.

* Пабачыў свет падвоены нумар краязнаўчага выдання "Павет" (№№ 11-12), які цалкам прысвечаны знаходкам двух унікальных камянёў: Друйскага Барысавага каменя з надпісам XII стагоддзя і камязнява-волата каля вёскі Латочкі. Большасць матэрыялаў выдання друкуецца ўпершыню.

НАВІНЫ З "КРЭСАЎ" НАВІНЫ З "КРЭСАЎ" НАВІНЫ З "КРЭСАЎ" НАВІНЫ

* 6 снежня адбылася сустрэча супрацоўнікаў Браслаўскага музейнага аб'яднання з вядомымі беларускімі мастакамі Георгіем і Наталляй Паплаўскімі, у творчасці якіх Браслаўшчына займае адно з галоўных месцаў. Сустрэча адбылася ў творчай майстэрні мастакоў у Мінску. Размова ішла аб далейшым супрацоўніцтве. Супрацоўніцтву паміж музеем і мастакамі больш за 15 гадоў. За гэтыя гады яно было вельмі плённым: арганізаваны шэраг выстаў, фонды музея маюць даволі значную падборку прац Паплаўскіх. Напрыканцы сустрэчы Георгій Паплаўскі падараваў музею тры карціны.

* 12 студзеня ў Браслаўскім касцёле Нараджэння Маці Божай адбылося выступленне хора Віцебскай каталіцкай катэдры. Гучалі даўнія і сучасныя беларускія, ці ў перакладзе на беларускую мову, калядныя песні. Хор, удзельнікі якога прадэманстравалі высокі творчы ўзровень, быў горача прывітаны мясцовымі парафіянамі (на здымку).



* 18 снежня Браслаў наведалі беларускія літаратары: Леанід Дранько-Майсюк, Зіновій Прыгодзіч. Адбыліся дзве сустрэчы з чытачамі. Першай аўдыторыяй былі супрацоўнікі бібліятэчнай сеткі Браслаўшчыны, другую склалі вучні старэйшых класаў і настаўнікі гарадскіх школ. Арганізатарамі сустрэч выступілі Цэнтральная раённая бібліятэка і выдавецтва "Кніга", прадстаўленае на сустрэчах намеснікам галоўнага рэдактара Людмілай Несцяровіч. Прайшла прэзентацыя-продаж навінак выдавецтва.

* Малады мастакУладзімір Кандрусевіч з Мінска працягвае працаваць над галерэяй партрэтаў знакамітых дзеячаў Браслаўшчыны. Пасля партрэта Станіслава Нарбута ім быў створаны вобраз Бернарда Выслоўха, дырэктара Опсаўскай сельскагаспадарчай школы ў 30-я гады XX ст (на здымку). Гэты чалавек паходзіў са знакамітага палескага роду Выслоўхаў, сярод якога было некалькі дзеячаў культуры. Бернард Выслоўх надзвычай любіў зямлю, сельскую гаспадарку, шанаваў сялянскую працу. Ён меў выдатныя арганізатарскія здольнасці. Пры ім Опсаўская школа стала лічыцца адной з лепшых у тагачаснай Польшчы. Бернард карыстаўся велізарным аўтарытэтам сярод жыхароў Браслаўшчыны. Трагічна загінуў у засценках НКУС.

Наступны герой галерэі партрэтаў Уладзіміра Кандрусевіча – выдатны браслаўскі краязнавец Отан Гедэман.

* Падводзяцца вынікі першага тура краязнаўчай віктарыны, арганізатарам якой з'яўляецца Цэнтр дзіцячай творчасці. У працы ўдзельнічаюць таксама супрацоўнікі музейнага аб'яднання. Тэхнічны бок забяспечвае Браслаўскі міні-рэсурсовы цэнтр грамадскіх арганізацый. Пытанні першага тура былі прысвечаны фальклору і этнаграфіі Браслаўшчыны. Радуе даволі значная актыўнасць вучняў. Падрыхтаваны пытанні другога тура, якія звязаны з археалогіяй рэгіёна.

* 20 снежня ў Музеі традыцыйнай культуры адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы народнага мастацтва "Калядныя ўзоры". Штогод народныя майстры Браслаўшчыны рыхтуюць на "Калядныя ўзоры" лепшыя творы. Многія з іх тэматычна звязаны з Калядамі і Навагоднімі святамі. Гэтым разам экспануюцца творы больш чым 20 майстроў. Багата прадстаўлены саломапляценне, вырабы з гліны, бяросты, лазы. Тэатралізаванае прадстаўленне перад прысутнымі паказалі дзеці – удзельнікі гурткоў, якія працуюць пры Музеі традыцыйнай культуры (на здымках – фрагменты адкрыцця выставы).

* Выйшаў святочны нумар краязнаўчага бюлетэня "Павет". У ім змешчаны звесткі пра цікавыя падзеі, якія адбываліся на Браслаўшчыне ў лістападзе-снежні, грунтоўны артыкул пра прыродныя катаклізмы ў рэгіёне, звесткі пра якія ўдалося адшукаць у гістарычных крыніцах, матэрыялы, прысвечаныя юбілею вайны 1812 года.

Пабачылі свет таксама чарговыя нумары моладзевага выдання "Гэта – мы!", газеты Барунскай школы "Школьны час", першы нумар газеты Браслаўскай гімназіі "Magister". Усе выданні выходзяць

пры тэхнічнай дапамозе Браслаўскага міні-рэсурсовага цэнтра.

* На абласным конкурсе юных разьбяроў, які праходзіў напрыканцы снежня, браслаўскія школьнікі Анджэй Юрша і Юрый Лукша сталі пераможцамі ў сваіх узроставых групах. Вось толькі ні раённы аддзел адукацыі, ні Цэнтр дзіцячай творчасці не змаглі фінансаваць паездку на конкурс... Спонсарамі таленавітых дзетак выступілі бацькі.

* Мінскае выдавецтва "Рыфтур" перад самымі святамі выпусціла альбом вядомага фотамайстра Сяргея Плыткевіча "Беларуская экзотыка". Аўтар прадстаўляе сваю краіну не з параднага фасада, а запрашае да падарожжа менш збітымі сцяжынкамі. Значная частка альбома звязана з Браслаўшчынай. Тут аўтар паказвае нам патаемныя, не адразу заўважныя куточкі блакітнавокага краю. "Беларуская экзотыка" з беларускім і ангельскім тэкстамі будзе цудоўным падарункам тым, хто хоча бліжэй пазнаць нашу краіну.

* Зімовае надвор'е ў гэтым годзе як ніколі спрыяе адпачынку на лыжах, санках, каньках. Наваколле Браслава з узгорыстым рэльефам сонечнымі марознымі днямі ўяўляе сабой фантастычнае па прыгажосці відовішча. Аднак амаль ніколі не сустрэнеш тут лыжнікаў. Лыжы, канькі, санкі лічацца заняткам для дзяцей. Усё гэта – сведчанне амаль поўнай дэградацыі фізічнай культуры сярод дарослага насельніцтва. Не працуюць на зімовы адпачынак аздараўленчы будынак і ўжо шматлікія базы адпачынку Нацыянальнага парка "Браслаўскія азёры", іншыя прадпрыемствы турысцкай сферы.

Між тым, гістарычныя матэрыялы сведчаць, што ў 30-я гады, калі Браслаўшчына ўваходзіла ў склад польскай дзяржавы, тут імкліва развіваліся і зімовыя віды адпачынку (на здымку).

* Мінулі навагоднія святы, падчас якіх нашы гарады набываюць больш прываблівы выгляд. На жаль, прыходзіцца канстатаваць, што Браслаў у гэтым сэнсе значна саступіў суседнім невялікім гарадкам: напрыклад, Мёрам, Глыбокаму. Розніца была настолькі відавочнай, што гэта адзначыла ў адным з матэрыялаў раённая газета "Браслаўская звязда". Справа аднак не толькі ў святочным строі гарадка. За апошнія гады Браслаў выглядае ўсё больш і больш неахайна, амаль не праводзіцца праца па добраўпарадкаванню. У даволі занядбаным выглядзе Замкавая Гара – галоўная гістарычная адметнасць Браслава. І гэта ўсё пры тым, што Браслаў з'яўляецца цэнтрам Нацыянальнага парка "Браслаўскія азёры", варотамі на паўночна-заходнім памежжы краіны. Як ніякі іншы горад Віцебшчыны, Браслаў мае найстаражытнейшае прыроднае атачэнне, якое аднак не дапаўняецца чалавекам, а часта нявечыцца.




*Буерны спорт на Браслаўскіх азёрах быў масавым і захаплялыным. Фота 30-х XX стагоддзя.*

MEDIA

# "Вольнае Глыбокае" – цяжкасці і набыткі



*Калектыў рэдакцыі «Вольнага Глыбокага»*

Сёння сродку масавай інфармацыі, які не залежыць ад дзяржавы, даводзіцца вельмі няпроста. Само яго існаванне ставіцца пад пытанне шматлікімі законамі і ўказамі. Уладамі, калі гаварыць працей, вядзецца адкрытая барацьба супраць любой газеты, радыёстанцыі, тэлеканала, дзе няма кантролю з боку той жа ўлады. Парушаецца сам прынцып, закладзены і ў нашай Канстытуцыі – свабода слова. Ды што казаць, возьмем нашу Віцебшчыну: колькі дзейных, незалежных ад дзяржавы, газет існуе на яе тэрыторыі? "Віцебскі кур'ер", Наваполацкі "Хімік" і ""Вольнае Глыбокае".

Вось пра апошнюю газету і хачу распавесці. Яна распаўсюджваецца не толькі ў Глыбокім, але і ва ўсім заходнім рэгіёне Віцебшчыны.

Газета ў апошні час набыла свайго чытача, павялічыўся яе наклад, з'явіліся новыя аўтары. Рост відавочны. Нехта можа ўсміхнуцца – 2 тысячы паасобнікаў, ці ж гэта наклад? Але, калі ўлічыць, што асобны нумар газеты чытае далёка не адзін чалавек – гэта ўжо падстава для сур'ёзнага роздуму мясцовых улад. Між тым, яны і думаюць. У мясцовай раённай газеты колькасць падпісчыкаў пастаянна змяншаецца, а ў "Вольным Глыбокім" - расце.

Наколькі я ведаю, ці не галоўны набытак газеты за апошні час, гэта тое, што ў яе рэдакцыю пачалі звяртацца людзі. З просьбамі, скаргамі, прапановамі. Пісьмо чытача – у сённяшнім "Вольным Глыбокім" з'яўляецца вельмі часта падставай для сур'ёзных і вельмі кампетэнтных журналісцкіх даследванняў. Чалавек не можа знайсці праўды ва ўладных структурах, афіцыйныя мясцовыя выданні не бяруць на ўвагу яго звароты. Да сталіцы далёка. Тут і дапамагае мясцовая незалежная газета. Яна не дапаможа вырашыць сацыяльнай, юрыдычнай, іншай праблемы. Але яна агучыць яе. На сваіх старонках пакажа крызісную сітуацыю, і тым самым прыцягне да яе ўвагу грамадскасці.

Нехта можа сказаць, ну а канкрэтна, чым газета падабаецца? Ды вось і прыклад. У Шаркоўшчынскім раёне жонка старшыні калгаса, дырэктар мясцовага музея збіла школьніцу, непаўналетнюю Наталлю Савельеву. Першай адгукнулася на гэту падзею газета "Вольнае Глыбокае". І ў рэшце рэшт справа пайшла, да яе далучыліся праваабарончыя арганізацыі. Дзяўчынцы судом быў кампенсаваны ўрон. Праўда, адказчыца, падае ў вышэйшыя, за абласныя інстанцыі.

А калектыў газеты невялікі, дарэчы, працуе на валанцёрскіх пачатках.

***Міхась Гіль***




## HISTORIA

*Недзяржаўныя арганізацыі існавалі на Пастаўшчыне ў розныя часы. Людзі імкнуліся да самастойнага існавання, незалежнай дзейнасці ў розных сферах жыцця. Пачатак 30-х гадоў мінулага стагоддзя. На верхнім здымку - культурніцкае таварыства ў г.Паставы. На ніжнім здымку выступае футбольная каманда Лучайскай агранамічнай школы.*



AD LITTERAM

# Валуны загаварылі

**У рамках праекту па захаванню культурна-гістарычнай спадчыны Паазер'я пастаўскі некамерцыйны выдавецкі цэнтр "Сумежжа" выпусціў першую кнігу краязнаўца Алеся Гарбуля "Скарбы сівых валуноў". Гэта навукова-папулярнае выданне, па сведчанню спецыялістаў, змяшчае шмат раней невядомых звестак пра ўнікальныя прыродныя аб'екты краю і з'яўляецца ўкладам у айчынную культуру і навуку.**




Адметнасць кнігі ў тым, што спачатку пад кіраўніцтвам аўтара, які працуе наладчыкам па працаёмкіх працэсах у калгасе "Перамога", быў створаны краязнаўчы клуб "Нальшчаны" ў асноўным з вучняў Палескай і Лынтупскай школ. Даследваннямі, якія ўхваліў доктар геолага-мінералагічных навук Валерый Вінакураў, на працягу больш года былі ахоплены 20 населеных пунктаў. За гэты час апытана некалькі соцень доўгажыхароў, выяўлена 17 новых ледавіковых валуноў, якія ўяўляюць навуковую каштоўнасць. Народная памяць захавала каштоўныя звесткі і ўнікальныя паданні пра камяні-валуны, якія для далёкіх продкаў мелі тое ж значэнне, што і сённяшнія храмы.

- Што такое валун, альбо які іншы сакральны для наступных пакаленняў камень? – разважае аўтар. – Гэта не толькі месца пакланення і далейшага неўсвядомленага веравання ў бязмежную і нечалавечую сілу яго. Гэта адзнака на зямлі, якая гаворыць аб прыналежнасці гэтай мясцовасці пэўнаму этнасу. Пэўнай культуры, якую трэба не толькі ахоўваць сёння, магчыма, не ўсё разумеючы ў сімвале, але і выкарыстоўваць практычна, будуючы новае жыццё ў новых умовах. Гэтыя мясціны павінны прываблівацъ і турыстаў, бо ўмелі нашы папярэднікі падбіраць месцы для свайго пражывання ў нашым паазёрна-рачным краі.

Варта заўважыць, што дагэтуль па ўсёй Пастаўшчыне было зарэгістравана і аб'яўлена помнікамі прыроды рэспубліканскага значэння 10 валуноў, сярод якіх "Вялікі камень Заўлечанскі". «Вялікі камень Лодаскі» "Святы/Дзюравы" і іншыя. Дзякуючы настойлівасці аўтара і яго памочнікаў, у кнізе ўтрымліваюцца падрабязныя параметры і неабходныя гістарычныя і этнаграфічныя звесткі ўжо пра 24 ледавікі-валуны... Зацікавіць чытачоў інфармацыя пра Чортавы камяні, свежыя высновы пра кроў на валунах і гіпотэзы аўтара наконт ранняй цывілізацыі.

Па меркаванню рэцэнзента, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Людмілы Дучыц, інфармацыя пра знойдзены камень з мяркуемым рунічным надпісам наогул прэтэндуе на сенсацыйнае адкрыццё, калі яна пацвердзіцца. Дагэтуль у краіне падобныя надпісы на камянях былі знойдзены толькі ў канцы XIX стагоддзя каля вёскі Пнеўшчына на Магілёўшчыне, ды і на гарадзішчы Маскавічы Браслаўскага раёна былі знойдзены больш сотні костак жывёл з нанесенымі на іх знакамі і надпісамі.

Але ўжо сёння відавочна, што праведзена вялізная праца і сабраны ўнікальны матэрыял. Шкада толькі, што кніжка выйшла невялікім накладам у 250 паасобнікаў, праўда, нядрэнна ілюстравана. Цікавае выданне "Скарбы сівых валуноў" адрасавана шырокаму колу чытачоў і ў першую чаргу тым, хто цікавіцца вывучэннем прыроды і культуры Беларусі.

*Уладзімір Шык*

KRESY EUROPY
КРЭСЫ
Газета NGOs Заходняй Віцебшчыны

Заснавальнікі: Міхал Гіль і Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны
Рэдактар Міхал Гіль
Тэл.факс.:2 17 84; E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by

Меркаванні рэдакцыі і аўтара могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Наклад 299 паасобнікаў

Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі

Аддрукавана на абсталяванні нашых сяброў